Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

30 красавіка 2004 года

№ 18 (469)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




Тэлетыдзень 18 канал

## Навіны рэгіёну

### Заселянее лес

ВАЛОЖЫН. Ва ўсіх васьмі лясніцтвах лясгаса на плошчы 770 га ідзе пасадка дрэў. Асноўныя пароды – елка, сасна. Невялікія дзялянкі выдзелены пад дуб, бярозу, ясень. Увесь пасадачны матэрыял, а гэта больш за 5 мільёнаў саджанцаў, з уласнага гадавальніка.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Згарэла БМВ

ВІЛЕЙКА. У час адпачынку ва ўрочышчы Дубаўка ля Вілейкі кампаніі аматараў шашлыкоў згарэла пакінутая без нагляду аўтамашына. Прычынай, па словах супрацоўнікаў праваахоўных органаў, стала няспраўнасць, якая і прывяла да самаўзгарання.

Марына СЛІЖ.

### «Оксна» – лепшая

СМАРГОНЬ. ЗАТ "Оксна" аб'яўлена пераможцай рэспубліканскага конкурсу "Лепшы прадпрымальнік 2003 года" ў намінацыі "Сфера аказання паслуг". Прадпрыемства займаецца ўстаноўкай і абслугоўваннем кабельнага тэлебачання, а таксама рамонтам бытавой радыёапаратуры.

Сяргей ЗЯНЬКО.

### «Мая прафесія»

МЯДЗЕЛ. Гульня КВЗ "Мая прафесія" паміж студэнтамі аграрна-тэхнічнага універсітэта і вучнямі СШ№1 пройдзе ў рамках акцыі па прафарыентацыі, што адбудзецца 30 красавіка з 14.00 у Доме культуры. Акцыю ладзіць аддзел па справах моладзі Мінаблвыканкама для вучняў старэйшых класаў.

Святлана ЦІШКО.

### Дзеці – у навукоўцы

АШМЯНЫ. У панядзелак 8-9-класнікі СШ №1 пачнуць трохдзённую навукова-практычную канферэнцыю. Школьнікі абаронць свае праекты, над якімі працавалі з верасня. Работы пераважна прысвечаны даследаванням Ашмяншчыны.

Ірына РАБУШКА.

### На варце

АСТРАВЕЦ. Свае дзеянні падчас магчымых надзвычайных сітуацый адпрацоўвалі ў аўторак на станцыі Гудагай і ў Катлоўцы падраздзяленні раённых аддзелаў па надзвычайных сітуацыях і ўнутраных спраў, пагранвойскі.

Ірына РАБУШКА.

### Прэзентацыя кнігі

МАЛАДЗЕЧНА. У беларускай гімназіі прайшла прэзентацыя кнігі нашага земляка Янкі Галубовіча "Ад студзеня да студзеня". Арганізавалі яе супрацоўнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі.

Марына СЛІЖ.

# 500 год – не ўзрост

**АСТРАВЕЦ. Старажытны дуб, які расце каля вёскі Споды, у 100 метрах ад хутара Кавалеўшчызна, аб'яўлены помнікам прыроды. Узрост дрэва, па ацэнках спецыялістаў, — каля 500 год.**



Ляснічыя Войцех Лукашэвіч і Мікалай Герман, жыхар хутара Кавалеўшчызна Іосіф Недрашлянскі: угрох дуб не абняць. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**Іосіф Недрашлянскі** пражыў на гэтым хутары ўсё жыццё: "Я бачу гэты дуб кожны дзень вось ужо 80 гадоў. І мне здаецца, што за гэты час ён не змяніўся. Можа, каб я з'язджаў на 20-30 гадоў, розніца ў памерах была б бачная. Вайна таксама не кранула дрэва. Вельмі моцных баёў тут не было. Колькі разоў мяняліся ўлады, а дуб стаіць. Прыязджаюць карэспандэнты розных газет, мастакі. Усіх ён цікавіць".

З ініцыятывай аднесці дрэва да ліку помнікаў прыроды мясцовага значэння ў Астравецкі райвыканкам звярнуўся мясцовы лясгас. І 29 сакавіка рашэнне было прынята. Цяпер адказнасць за ахову дуба нясе сельсавет вёскі Споды. Дрэва агародзяць і павесяць адпаведную шыльду.

На тэрыторыі помніка, якая складае 2,5 соткі, забароняць праводзіць земляныя работы, пасвіць жывёлу, распальваць вогнішчы, ставіць машыны і палаткі.

"Раней дрэва адносілася да калгаснага лесу, — кажа галоўны ляснічы раённага лясгаса **Мікалай Герман**, – у 2002 годзе гэты лес перадалі нам. І на дуб звярнулі ўвагу. Ён сапраўды унікальны. У нашым раёне ёсць яшчэ такія дрэвы, праўда, маладзейшыя. Але яны засыхаюць. А ў гэтага прыкмет засыхання і гніення няма. Яно абсалютна здаровае і працягвае расці".

Узрост любога дрэва можна вызначыць дакладна па гадавых кольцах на зрэзе. Колькасць кольцаў адпавядае колькасці гадоў. Зразумела, што дуба-асілка ніхто зразаць не збіраецца. Таму працягласць жыцця помніка прыроды падлічылі вельмі прыблізна, зыходзячы з сярэдняга прыросту за год. У сярэднім за год росту дуб прыбаўляе ўсяго 3,5 міліметра. І гэта лічба ўмоўная. Яна залежыць ад асаблівасцяў глебы, колькасці вільгаці, святла і інш. Чым



Волат у поўны рост. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

маладзейшае дрэва, тым хутчэй яно расце. З узростам замаруджваецца і рост. Калі ўсё гэта ўлічыць, можна вызначыць, што гэтаму дубу прыкладна 450-550 гадоў. У тэлефоннай гутарцы з карэспандэнтам "РГ" Андрэй Галдзянкоў, начальнік аддзела заходняй справы Міністэрства прыродных рэсурсаў, сказаў, што такіх дубоў у краіне няшмат, але яны ёсць. І гэтае дрэва можа прэтэндаваць на званне помніка прыроды рэспубліканскага значэння. Галоўнае, каб яно было здаровае і мела перспектыву далейшага росту.

Здаецца, такая перспектыва ёсць. Карысна для дуба тое, што расце ён не ў лесе. Стаіць на ўскрайку калгаснага поля, якое ўвесь час апрацоўваюць. Цяпер, напрыклад, тут пасеялі зімовы рапс. Пастаяннае ўгнаенне глебы, дастатковая колькасць святла і вільгаці, адсутнасць побач "дрэў-канкурэнтаў" зрабілі сваю справу: у абхваце дуб-асілак амаль 7 метраў, размах кроны – 33 метры, вышыня – 27. І няма прычынаў не расці далей.

Для браканьераў, якія незаконна высякаюць лясы, ён не ўяўляе таварнай каштоўнасці як будаўнічы матэрыял. Спілаваць на дровы? Паспрабуйце знайсці пілу такога памеру. Стыхійныя з'явы яму таксама не страшныя. Напрыклад, маланка, калі трапіць у дрэва, спаліць яго не можа. Застанецца толькі "шрам" даўжынёй 3-5 сантыметраў.

І 500 гадоў для дуба – не ўзрост. Як адзначыў **Войцех Лукашэвіч**, ляснічы Спондаўскага лясгаса, дуб у такіх умовах можа стаяць 1000 гадоў, тым больш, што гэта тэрыторыя рэспубліканскага ландшафтнага заказніка "Сарачанскія азёры". А яна ахоўваецца дзяржавай.

Вучоныя даказалі, што ёсць дрэвы-вампіры, якія забіраюць у чалавека энергію, — таполя, асіна, елка. І дрэвы, якія аддаюць яе, даюць сілу, — такія, як бяроза, сасна, дуб. За мінулы год Астравецкім лясгасам пасаджана больш за 6 гектараў маладых дубоў. Можа, праз 500 год хто-небудзь напіша і пра іх...

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Прыехалі «Песняры»

У мінулую суботу ў Палацы культуры Маладзечна выступаў ансамбль "Песняры". Карэспандэнт Святлана Цішко ўзяла інтэрв'ю ў яго кіраўніка, нядаўняга віляйчаніна Валерыя Скаражонка.

7-я старонка

### Гарады-равеснікі

Маладзечна і Валожын у адзін дзень сустрэлі свае 75–годдзе ў статусе гарадоў.



8-я старонка

**Кампанія «Славнефть»**
рэалізуе ў Вілейцы са склада нафтапрадуктаў:
- **бензін** А-76, А-92, А-95,
- **дызпаліва**,
- **масла**

ў шырокім асартыменце – па аптовых цэнах.

Тэл./факс: (01771) **33771, 33794**.

Ліц. №09100-0112517 ад 23.01.2004/2009 г.

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Справы рамонтныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары двухпавярховых дамоў №№16 і 18 па вуліцы Лебедзеўскай называюць сваё жыллё не іначай, як хутар альбо "выселкі". На іх думку, гарадскія ўлады проста забыліся пра існаванне гэтых дамоў. Пабудаваныя яны яшчэ ў канцы 50-х гадоў. З таго часу не было капітальнага рамонту. Сёння тут цячэ столь, абвальваюцца карнізы, вада падышла пад фундамент.**

Валянціна Бурылава жыве ў 16-м доме амаль трыццаць гадоў. Яна расказвае: "Неяк самі купілі фарбу і шпаклёўку. Маляры з домакіраўніцтва пафарбавалі сцены і пабялілі столь. А вось поручні і падлогу пафарбавалі самі. А ў суседнім 18-м доме фарба, якую купілі жыхары, стаіць ужо 2 гады. Нікому да гэтага няма справы. У кватэрах на другім паверсе адвальваецца тынкоўка. Вада зацякае скрозь драўляныя перакрыцці. А нам кажуць: гэта таму, што была вельмі снежная зіма. Летам дах працякаць не будзе. На першым паверсе – пах сырасці і цвілі. У падвалах – вада. Газ нам таксама не правялі. Усе купляюць балоны. А гэта намнога даражэй, чым плаціць за праведзены прыродны газ. У нашых дамах жывуць пераважна пенсіянеры. Дамы старыя і людзі старыя...".

У домакіраўніцтве №1, якое абслугоўвае гэты раён горада, сказалі, што, калі ёсць пэўныя праблемы, трэба звярнуцца за дапамогай, пакінуць заяўку, але не сядзець дома і скардзіцца. Па словах дырэктара **Яўгена Чаеўскага**, калі адвальваецца тынкоўка, яны гатовы зрабіць рамонт не толькі ў пад'ездзе, але і ў кватэры. А з пенсіянера нават грошай за гэта не возьмуць.



Столь адной з кватэр дома №16 па вуліцы Лебедзеўскай. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**"Вы былі толькі ў гэтых дамах і толькі адзін раз, — гаворыць першы намеснік старшыні гарвыканкама Яфім Ідэльчык, — і ўжо перажываеце за гэтых людзей. А цяпер уявіце, што вы сутыкаецеся з такімі праблемамі кожны дзень. Тое, што жылы фонд знаходзіцца ў розным стане – гэта зразумела. Але з іншага боку з 600 шматкватэрных дамоў горада толькі каля 10 прызнаны старымі і маюць патрэбу ў капрамонце. У нас ёсць спіс такіх дамоў. І тут існуе дзве праблемы: знайсці грошы і адсяліць людзей на час рамонту. Першую вырашыць цяжка, бо сродкаў з бюджэту не хапае, а адлічэнні саміх жыхароў проста мізэрныя. Другая невырашальная наогул. Адсяляць проста няма куды".**

Па заканадаўству прадугледжана даванне сацыяльнага жылля. Але сродкаў на гэта ніхто не выдзяляе. Малазабяспечаныя сем'і таксама маюць права ў першую чаргу ўключацца ў жыллёвыя кааператывы. Але на будаўніцтва ў людзей няма грошай.

Застаецца рамантаваць старое жыллё. З агульнай сумы квартплаты ад жыхароў домакіраўніцтва атрымлівае 80 рублёў на 1 квадратны метр. Абслугоўванне ж таго самага метра каштуе 240 рублёў. Калі ў мінулым годзе на рамонт з бюджэту было выдаткавана 148 мільёнаў рублёў, то ў гэтым толькі 100 мільёнаў. На чарзе чакаюць рамонту 54 пад'езды, дзе людзі самі купілі фарбу і шпаклёўку. Працуе 5 маляроў. Дамы па Лебедзеўскай у спісе 11-я. Гэта значыць, што чарга да іх дойдзе прыкладна ў ліпені. Праўда, дахі абяцалі адрамантаваць раней.

З іншага боку, калі жыхароў не задавальняе работа домакіраўніцтваў, яны могуць аб'ядноўвацца ў сумесныя домаўладанні. У гэтым выпадку ўладальнікі кватэр ствараюць таварыства, рэгіструюцца як юрыдычная асоба і адкрываюць у банку ўласны разліковы рахунак. Цяпер квартплату вы будзеце плаціць не ў "агульны кацёл" ЖРЭУ вашага раёна, а на рахунак таварыства. Як выкарыстоўваць гэтыя сродкі – вызначаеце вы самі. Вы вырашаеце, што трэба зрабіць у першую чаргу: адрамантаваць дах, устанавіць дамафон ці памяняць рамы.

Аднак прыкладаў стварэння такіх аб'яднанняў у горадзе пакуль няма.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 22.4 руб. | 29.4 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2152,00 | 2153,00 |
| Еўра | 2544,63 | 2567,56 |
| Злоты | 536,16 | 537,11 |
| Літ | 736,94 | 743,39 |
| Расійскі рубель | 74,40 | 74,59 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.4 | 28.4 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1510 | 1510 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 900 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Морква, 1 кг | 350 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Апельсіны, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1200 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2500 | 2500 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3300 | 3200 |
| Бульба, 1 вядро | 2300 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

■ ПАСЛУГІ

## Транспартная інспекцыя

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе адкрылася прадстаўніцтва транспартнай інспекцыі па Мінску і Мінскай вобласці. З аднаго боку, гэта спросціць жыццё тым, хто займаецца перавозкай грузаў і пасажыраў і раней "здабываў" ліцэнзію ў сталіцы. З дугога боку, узмоцніцца кантроль за тымі, хто аказвае транспартныя паслугі.**

Пакуль што ў штаце транспартнай інспекцыі адзін чалавек – рэгіянальны прадстаўнік Юрый Лазар. Асноўныя задачы прадстаўніцтва — выдача ліцэнзій, спецыяльнага дазволу на ўнутрырэспубліканскія і міжнародныя перавозкі, выключаючы ўнутрытэхналагічныя для асабістых патрэбаў, пасажыраў і грузаў. Таксама транспартная інспекцыя кантралюе за ліцэнзаванай дзейнасцю ў галіне. Зона абслугоўвання прадстаўніцтва – Маладзечна і раён, Вілейскі, Мядзельскі, Валожынскі раёны.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ШКОЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Сталуемся па журналу

**Праблема харчавання ў школьных сталоўках існавала даўно. Вучняў ледзь не прымушалі есці ў школе. Адныя вучні не жадаюць, таму што ім проста не падабаецца ежа, другія – з-за фінансавага становішча.**

Потым праблема неяк сама сабой знікла, калі у сталоўку з кожнага класа хадзіла 2-5 чалавек. Неўзабаве класы згубілі і гэтых добраахвотнікаў, і праблема зноў навісла над вучнямі, іх бацькамі і адміністрацыямі школ. Тады настаўнікам прапанавалі ўвесці харчаванне па журналу, г.зн. першы тыдзень у сталоўку ходзіць адна палова класа, затым – другая. Пасля гэтага ў дзённіках вучняў з'явіўся таямнічы запіс "3500 рублёў на тыдзень". Узнікаюць пытанні: "А што рабіць, калі дзіця не хоча есці ў школе? Ды і чаму яны не хочуць там харчавацца?" Я вырашыў задаць гэтыя пытанні самім дзецям.

**Ганна Тарайковіч** (васьмікласніца) з вялікай ахвотай падзялілася са мною сваімі думкамі:

"Школьная сталоўка не ўнушае мне даверу. І яшчэ, не кожны раз там прапаноўваюць смачныя стравы, а аддаваць грошы і не есці я не збіраюся."

А вось што думае пра гэта **Святлана Ашуркевіч**, настаўніца біялогіі з гімназіі–каледжа: "Я лічу, што дзеці не харчуюцца ў школьнай сталоўцы таму, што ў іх спрацоўвае "стадны інстынкт"(адныя не захацелі есці, а астатнія, не жадаючы выдзяляцца, іх падтрымалі). Ну, а здымаць прэміі з-за гэтага з класных кіраўнікоў, як гэта робяць у многіх школах, канешне, несправядліва."

Думкі разыходзяцца. А галотныя дзеці і настаўнікі не ведаюць што рабіць.

Я патэлефанаваў у гарадскі аддзел адукацыі. Тэхнолаг па харчаванні **Алена Слабыш** адказала мне, што ніхто нікога не прымушае, проста адміністрацыя школ клапоціцца аб здароўі дзяцей, якім патрэбна штодзённае гарачае харчаванне. Так то яно так, і з гэтым ніхто не спрачаецца. Але мне здаецца, што такая праблема не ўзнікла б зусім, калі б якасць харчавання была лепшай. Калі вы гатуеце грэчку дома, вы яе спачатку прамыеце. Потым варыце, соліце і падаеце на стол. А тут, здаецца, што ў школьнай сталоўцы кухары проста высыпаюць грэчку ў ваду без солі і вараць. Паглядзіш на гэту страву і не ведаеш што рабіць, ці то есці, ці то не.

**Міхаіл СТРАЛЕЦ, вучань з Маладзечна.**

Молодечненский учебно-курсовой комбинат объявляет набор на курсы:
Тракторист-машинист «А», «В», «Г»; кочегар до 0,07 МПа; кочегар до 3,82 МПа; электрогазосварщик; аппаратчик ХВО; рамщик; станочник по деревообработке; вальщик леса; водитель автомобильного погрузчика.
Тел.: (01773) 76193, 70161.
Молодечно, ул. В.Таврая, 1.
Лиц. Серия СЛ №028658 до 16 июня 2007 г.

За наличный и безналичный расчет
АВТОШИНЫ
Легковые, грузовые, легкогрузовые, с/хоз.
АККУМУЛЯТОРЫ
ИСТОК, BAREN, CENTRA
ГЛУШИТЕЛИ, ГОФРЫ
МАСЛА LUXOIL, MANNOL, CONSOL
Снимем, купим помещение под склад, магазин
Тел.: (017) 2608275, (8-029) 6280451, (01773) 74054, (8-029) 6757543.
Мир шин и аккумуляторов.

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою.
Амбулаторны прыём (ананімна).
Маладзечна, вул.Чкалава, 5 (басейн)
Тэл. 36136, (8-029) 7743373.
Ліц МЗ РБ №2666 АМ да 24.04.2008

ПЯЧАТКІ, ШТАМПЫ, ГРАВІРОЎКА
г. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 63,
тэл./факс 54402. ТДА «ВІЗІТ».
Ліц. №006 МУС РБ ад 20.05.1998 г. да 20.05.2003 г.

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою (кругласутачна),
Комплекснае лячэнне алкагалізму
Індывідуальны прыём па папярэднім запісе.
Маладзечна, вул. Вольная, 12,
тэл.: 37275, 50974, (8-029) 6337275.
Ліц. МАЗ РБ №954 ад 8.06.1999-8.06.2004 г.

РИДАРА РАЗУМНОЕ РЕШЕНИЕ!
Комплекс коммунальной и дорожно-строительной техники:
■ Коммунальная техника ■ Спецтехника на базе МТЗ
■ Дорожно-строительная
■ Техника для перевозки нефтепродуктов
■ Автопогрузчики вилочные
(017) 285-67-92, 285-67-66, 285-73-82, 285-73-83
www.ridara.com
Лиц. № 17890 выдана на 5 лет с 25.09.2000 по 25.09.2005; Мингорисполком

ПАК
ПЕРВАЯ АККУМУЛЯТОРНАЯ КОМПАНИЯ
предлагаем оптом и в розницу:
– аккумуляторы
– масла автомобильные 15W40, М10Г2к
– масла трансмиссионные
– масла индустриальные И-20, -40, МГЕ, АУ, КС, М14В
Тел. Молодечно 63063
Сморгонь 21562
Ошмяны 20461

ВЫ ГОТОВЫ К ТЕХОСМОТРУ?
"ЗАПРЕЩАЕТСЯ эксплуатация транспортных средств, если суммарный люфт в рулевом управлении превышает следующие значения:
для автобусов - 20 градусов
для грузовых автомобилей - 25 градусов"
(Приложение 5, Глава 2, Правила дорожного движения)
шины и аккумуляторы для любой техники
запасные части для ЗИЛ, ГАЗ, УАЗ, МТЗ
Тел. в Молодечно:
(01773) 6-42-84, 3-61-14
Адрес: пер. Банный, 10 (ОДО "Агрошина")
ШИНТОРГ Власть над дорогой!

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Суседзі

**За сваё жыццё мне давялося пажыць і ў прыватным доме ў вёсцы, і ў дзевяціпавярховым інтэрнаце ў Мінску, і ў кватэры ў панэльным доме. Трапляліся суседзі, з якімі і цяпер сябрую, але ж былі і такія, з якімі, мякка кажучы, не хацелася побач жыць.**

Некалькі прыкладаў. Адна старая, як ёй ні цяжка кожны дзень, даглядае невялічкую клумбу каля пад'езда. Выходзіш раніцай на працу, паглядзіш на кветкі і на душы становіцца весялей. А вось процілеглая карціна. Клумба ўжо некалькі гадоў выкарыстоўваецца як стаянка для аўтамабіляў, таму што асфальтавая пляцоўка знаходзіцца ў пяцідзесяці метрах, а гэта ўжо далёка! Якога б хацелі мець суседа?

Разгледзім ярка выражаныя тыпы суседзяў.

**Дыктатар.** Ён усім навязвае свой погляд. Усё павінна праходзіць адпаведна з яго пажаданнямі і густам. Нават калі гэта нікому не падабаецца. Абыякавы да жыцця. Яго дэвіз: "Мая хата з краю, нічога не знаю". Калі нават у вашым двары прызямляцца іншапланецяне, ён будзе спакойна курыць, седзячы на лаўцы.

**Чысцёха.** Не дай бог вам кінуць фанцік ці недапалак у пад'ездзе! Мінімум, што вам пагражае, гэта нота пратэсту. Максімум, вас паспрабуюць выселіць, з вашай жа кватэры.

**Мурза.** Гэты тып ніколі не прыбярэ ў пад'ездзе, а калі не прыедзе "смеццявозка", выверне смецце ў двары.

**Крэдытор.** Такі сусед амаль кожны дзень нешта спрабуе пазычыць у вас: запалкі, відэа, машыну і нават жонку.



Гарадскія суседзі. Каго б мы хацелі мець суседам у пад'ездзе, на лесвічнай пляцоўцы?

Фота ByMedia.Net

**Пляткар.** Калі вы вып'яце з сябрамі чарку, ён скажа, што вы п'яніца, а калі вы не вып'яце з ім, ён скажа, што вы закадзіраваны.

**Скнара.** Слова "наша" ён не ведае, ёсць толькі словы "маё" і "тваё", прытым што ўсё, што вакол яго, гэта яго.

Калі пазналі сябе, дык пастарайцеся памяняцца, бо, як гавораць, лепей позна, чым ніколі. Ну, а калі пазналі суседа, памятайце, сусед – гэта другая дзяржава і з ёй трэба весці сябе адпаведна законам дыпламатыі.

**Цытата.** Кандыдат псіхалагічных навук Таццяна Кавалёва, намеснік міністра адукацыі: «Большая частка насельніцтва Беларусі ў маладосці жыла ў інтэрнатах, і калі там быў парадак, то сфарміраваўся гаспадар, які і сёння сочыць за пад'ездам, ліфтам, кватэрай. І наадварот. Таму тыя, ад каго гэта залежыць, абавязаныя зрабіць усё для таго, каб інтэрнат на час пражывання стаў родным домам".



Адкрыты ўрок вядзе

Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.

■ ТАЛЕНТЫ

## Краіна герояў

**МАЛАДЗЕЧНА. 24 красавіка ў бібліятэцы «Верасок» прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў 19-га гарадскога злёту юных талентаў "Зямля Беларусі – краіна герояў». Конкурс быў прысвечаны 60-ай гадавіне з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Журы былі пададзены 22 паэтычныя работы, 25 празаічных твораў і 53 малюнкі. У час яго свята гучалі песні "Кацюша", "Жураўлі", "Дарогі" і песня "Жадаю вам".

Пераможцамі ў намінацыі "Паэзія" сталі: **Яўгенія Скуратовіч** з гімназіі-каледжа, заняўшая першае месца, **Вольга Рысік**, вучаніца 14 школы, – на другім месцы і на трэцім – **Ганна Крывец** са школы №2.

У намінацыі "Проза" першае месца заняла **Аляксандра Кандрашова** (гімназія-каледж), другое месца атрымала **Наталля Кезік** (ЦПР, гурток "Юны журналіст"), а **Надзея Казлоўская** (СШ№14) заняла трэцяе месца. У намінацыі "Мастацтва" прызавыя месцы атрымалі вучаніцы чацвёртай школы: **Аліна Змітровіч**, **Вікторыя Вайцяхоўская** і **Вольга Гарасава**.

Напрыканцы злёту ўсе жадаючыя чыталі свае вершы паза конкурсам.

**Валянцін ЦІШКО,**
**гуртковец цэнтра пазашкольнай работы.**

■ ЕЎРАСАЮЗ

## Выбар для Беларусі

**ВІЛЕЙКА. 24 красавіка адбылася першая ў Беларусі рэгіянальная прэзентацыя кнігі "Беларусь: сцэнары рэформаў. Еўрапейскі выбар для Беларусі".**

У выданні прапанаваны варыянт сістэмных пераўтварэнняў, пры рэалізацыі якіх Беларусь будзе адпавядаць мінімальным патрабаванням Еўрапейскага Саюзу да краінаў-кандыдатаў у яго члены. На сустрэчу з прадстаўнікамі аўтарскага калектыву: Уладзімірам Мацкевічам, Віталём Сіліцкім, Юрасём Ліхтаровічам, прыйшло каля 40 віляйчан. Яны атрымалі кнігі бясплатна.

У першай частцы прэзентацыі аўтары апісалі цяперашнюю беларускую сітуацыю ў галінах палітыкі, эканомікі, адукацыі, распавялі пра мэты, якія ставілі перад сабой падчас напісання кнігі, пра некаторыя бакі прапанаваных рэформ. У другой частцы прэзентацыі слухачы задавалі пытанні і выказвалі свае меркаванні.

Асаблівасцю выдання кнігі з'яўляюцца запланаваныя шырокія прэзентацыі ў шэрагу гарадоў Беларусі. Гэта звязана з жаданнем аўтараў прыцягнуць увагу грамадзянскай супольнасці і работнікаў дзяржаўных органаў да жыццёва важных праблем грамадства, надаць новы імпульс дыскусіям аб дэмакратычным рэфармаванні краіны.

Па словах былога выкладчыка Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Віталя Сіліцкага, галоўны матыў ягонага ўдзелу ў напісанні кнігі – акрэсліць і паказаць новую перспектыву для краіны. Кніга мусіць паўплываць на тых, хто стварае грамадскую думку – на інтэлектуальныя эліты, СМІ, людзей, якія потым самі будуць нешта казаць і пісаць на нізавым узроўні.

Уладзімір Мацкевіч, вядомы шырокаму тэлегледачу па праграме "Выбар", у ідэале бачыць узнікненне адмысловых гурткоў, правядзенне семінараў па вывучэнні і дапрацоўцы апісаных у кнізе праектаў рэформ. Гэта дасць магчымасць удасканаліць іх і выкарыстоўваць у працы органаў мясцовай улады, грамадскіх і палітычных актывістаў.

Кніга з'яўляецца даведнікам для тых, хто мала ведае пра нашу краіну і тыя працэсы, якія ў ёй адбываюцца. Абмеркаванне кнігі перайшло лакальныя межы. Яна перакладзена на рускую і англійскую мову.

Прэзентацыя адбылася з ініцыятывы Фундацыі імя Сцяпана Батуры і пры ўдзеле Беларускага Шуманаўскага Таварыства, якое прадстаўляў старшыня Ігар Лялькоў.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ, 8-029-6345895.**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

На жаль, маёй просьбы ніхто ня ўзяў пад увагу, і яна без паветра, бязь дзённага сьвятла, галодная, сядзела паўгода, пакуль выйшла з парашай у руках на калідор і не павалілася, страціўшы прытомнасьць. Тады яе пераявлі ў крыху лепшую камэру.

Былі мы затрыманы часова й гэты найцяжэйшы час нам не залічылі. Я прасядзела так тры месяцы — Вэра даўжэй. У міжчасе сабралася ў маёй камэры больш жанчын. Некаторых пачалі клікаць на дапросы. Усе былі забраныя па-за домам, на вуліцы. Вельмі баяліся сьледзтва, расказвалі аб розных катаваньнях і муках. Аднаго дня прачнулася я й кажу: „Сёньня мая чарга." Не пасьпела дакончыць, як мяне паклікалі. Больш я ў камэру не вярнулася. Перадалі мяне савецкім уладам і перавезьлі ў турму на Прагу (у Варшаве). Памяшчалася яна ў падвале старога будынка, у якім складалі вугаль. Сажы было поўна на зямлі, на сьценах і столі. У куце стаяла вялікая сьмярдзючая працякаючая бочка, якой ніколі не апаражнялі. На зямлю былі пакладзеныя голыя дошкі, на іх мы спалі. Прывялі мяне сюды яшчэ з аднэй жанчынай. Перад будынкам навязаны быў вялікі сабака, але ён на мяне ня кідаўся й не забрахаў, калі мяне вялі. Глядзеў як бы спагадаючы. У гэтым пограбе мы прaседзелі два тыдні. Бедная Вэра была там пазьней, у студзені, калі было холадна. Прасядзела адна сорак сутак.

Адтуль павезьлі нас у Легніцу й пасадзілі ў турму пры Ваеннай Савецкай Камэндатуры. Ехалі мы з Варшавы ў гэты горад таварным цягніком цэлы тыдзень. У вагоне нас было тры жанчыны. Перад намі ў будцы стаяў савецкі стражнік. Якія розныя спатыкаліся сярод іх людзі! Калі засьвяціла сонца, якога мы больш трох месяцаў ня бачылі, мы падышлі да шчыліны, праз якую падала яго праменьне й наставілі твары. Бачачы гэта, стражнік пачаў крычаць, каб вярнуліся на сваё месца ў кутку вагона й не глядзелі на сонца. Пасьля зьмены іншы стражнік прамовіў да нас такімі словамі: „Я на вас гляджу, а ў мяне сэрца разрываецца ад болю, так мне шкада вас..." Як мог, стараўся нас суцешыць.

У Легніцы прабылі мы два тыдні. Некалькі дзён падрад завязвалі нам вочы й везьлі на аэрадром. Пасьля зноў назад вярталіся. Хацелі адправіць нас самалётам у Маскву, а не было пагоды й самалёт не адпраўляўся. Наканец паляцелі мы з завязанымі вачыма, ня еўшы. Ляцелі цэлы дзень. Хаця мае вочы былі завязаныя, я ўбачыла, што нехта сядзеў каля мяне з кайданамі на руках. Куды нас вязуць, мы ня ведалі. Дзе прызямліўся самалёт, мы не маглі дагадацца. Вывелі нас з самалёта, адвязалі нам вочы й сталі абшукваць. Павялі ў камэру без акон. Аказалася, трапіла я ў славутую маскоўскую Лубянку. Не падабалася мне там тое, што загадвалі спаць з рукамі, пакладзенымі на верх коўдры. Як толькі я рукі схавала, адразу стукалі ў дзьверы й будзілі. І так мучылі мяне ўсю ноч. Забудуся й схаваю рукі, а мяне зараз жа разбудзяць.

Неяк прыемна ўспамінаю аднаго старэйшага стражніка, які, убачыўшы, што вядуць мяне на прагулку позьняй восеньню ў летнім плашчы, схапіў целагрэйку й накрыў мяне. Гэты ж самы стражнік часта адкрываў вакенца маёй камэры й пытаўся ў мяне, ці не хачу напіцца гарбаты. Сядзела я ў камэры ўвесь час адна. Усьцешылася, калі прынесьлі мне кнігі. Пачала чытаць і перастаў час доўжыцца.

Пасьля двух тыдняў пасадзілі мяне ў чорны воран і павезьлі на станцыю. Калі адкрылі дзьверы ворана, каб я высела, убачыла я скіраваныя на сябе штыкі. Так мяне пільнавалі, каб прыпадкам не ўцякла, выходзячы з ворана! Акружылі мяне стражнікі, а было іх ня менш як пяць чалавек, і павялі на пэрон да цягніка. На станцыі было многа людзей і ўсе за мной аглядаліся, думаючы, якога вядуць тут арыштанта-праступніка, а мне хацелася плакаць ідучы й сьмяяцца. Думала: што такое я зрабіла, чаму аж столькі людзей мяне пільнуе? Як шкада, што ня бачаць мяне Люня й іншыя сябры зь Вільні, з вуліцы Завальнай, якія жывуць сабе спакойна ў вольным сьвеце й не прадчуваюць, што я тут перажываю! Так, ідучы да цягніка, я вас, дарагія сябры, успамінала.

Дзеля таго, што было ўжо зімна, далі мне ў Маскве зьнішчаную жаўнерскую ватоўку, якую я апранула на свой белы летні плашч. На галаве мела хустку, а ў руках элегантны чамадан. І так ішла па пэроне.

Завялі мяне ў купэ, прызначанае для вязьняў, і паставілі стражніка, які не спускаў мяне з вачэй. А я ехала й таксама глядзела на яго. „Чаго так на мяне глядзіш?" — запытаўся стражнік. А я кажу: „Гляджу, бо вы мне вельмі прыпамінаеце майго брата. А можа вы сапраўды мой брат?

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

**Вёска Войстам – цэнтр сельсавета Смаргонскага раёна. Размешчаная на мяжы з Вілейскім раёнам у 20 кіламетрах ад Смаргоні. Згадваецца ў летапісах з 1460 года. Прывілеем караля Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага ад 1672 года ў Войстаме арганізаваныя таргі.**

**На сённяшні дзень 238 жыхароў. Вёска знакамітая тым, што на мясцовых могілках пахаваны пісьменнік Ігнат Ходзька.**

**Ігнат Ходзька – пісьменнік, мемуарыст, аўтар “Літоўскіх малюнкаў”, “Мемуараў скарбніка”, “Літоўскіх паданняў”, у якіх апісаў беларускія мясціны, жыццё і побыт насельніцтва Беларусі.**


У вёсцы змалку дзяцей прывучаюць да працы. Мама з дачкой вяртаюцца дадому. Фота Святланы ЦІШКО.


Войстамскаму касцёлу сёлета спаўняецца 65 гадоў. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

# Падарожжа ў Войстам

**У Войстаме 16 красавіка высадзіўся цэлы дэсант: акрамя «Рэгіянальнай газеты», прыехалі краязнаўцы Аляксандр Зайцаў і Анатоль Рогач з Вілейкі, дырэктар Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Валянціна Лапко і кіраўнік вілейскага турклуба Віталь Кастэнка.**


У цэнтры Войстама пры дарозе – старадаўняя каменная каплічка. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.


На перапынку войстамскія школьнікі могуць пакатацца на арэлях. А ў школьным фае стаіць новы стол для гульні ў настольны тэніс. Фота Святланы ЦІШКО.

У двары войстамскага касцёла – невялічкая дагледжаная сажалка, упрыгожаная кветкамі. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Найперш шлях прывёў нас у Войстамскую сярэднюю школу. Пасярод фае на першым паверсе стаяў зусім новы з выгляду стол для гульні ў настольны тэніс. На вуліцы ля ганку – машына з надпісам «Медслужба». Высветлілася, што сёння ў Войстам прыехаў зубны кабінет са Смаргоні. Ён ездзіць па раёне, у адзін населены пункт заязджае прыкладна раз на год. Медычка выклікала ўсіх вучняў па чарзе, а дарослыя войстамцы павінны паклапаціцца пра сябе самі: аб’ява ля ўвахода ў прадуктовы магазін запрашала да школы ўсіх ахвотных палячыць зубы.

У школе ёсць краязнаўчы музей, які захоўвае звесткі, што ў 1936 годзе школе было прысвоена званне **Юзафа Пілсудскага**. Экспазіцыя пачынаецца з каменнага веку, а заканчваецца стэндам, прысвечаным святкаванню 60-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У першым раздзеле ляжыць металічная пліта – ахоўны знак “Помнік археалогіі” войстамскага гарадзішча. Намеснік дырэктара школы Святлана Махнач патлумачыла, што гэта, напэўна, адзіны спосаб захаваць гэты металічны знак. Інакш “прадпрымальныя” людзі хутка пераплавілі б яго і вывезлі за мяжу.

Ёсць у экспазіцыі раздзел, прысвечаны Ігнату Ходзьку.

Год нараджэння Ігната Ходзькі дакладна невядомы. У адных даведніках указваецца 1794 год, у іншых – 1795. Аляксандр Зайцаў схіляецца да думкі, што пісьменнік нарадзіўся ў 1795 годзе: захавалася метрычная кніга, у якой указаны менавіта гэты год.


У прамтаварным магазіне Войстама працуе Галіна Трызна. Па яе словах, пакупнікоў у сярэдзіне дня нямнога. Фота Святланы ЦІШКО.

## Да магілы Ігната Ходзькі

Магілу Ходзькі знайшлі параўнальна нядаўна (годзе ў 1995) Аляксандр Зайцаў і Анатоль Рогач, якія шукалі месца, дзе быў яго маёнтак Дзевятня. Даведнікі сцвярджалі, што Дзевятня ў Смаргонскім раёне, каля Жодзішак. Але вілейскія краязнаўцы па розных прыкметах, па ўспамінах сяброў Ходзькі вылічылі, што цяпер на яго месцы – поле каля вёскі Навасады Вілейскага раёна. Маёнтак захаваўся толькі на малюнку Напалеона Орды.

Войстамскі ксёндз падказаў, што магіла можа быць у кутку на могілках. Цяпер гэтае месца крыху ўпарадкавалі. Каля Ходзькі пахаваныя таксама яго дачка Станіслава, унук Лявон і хутчэй за ўсё жонка, але чацвёртая пліта не захавалася.


Магілу пісьменніка Ігната Ходзькі ў сярэдзіне 90-х гадоў знайшлі вілейскія краязнаўцы Анатоль Рогач (на здымку) і Аляксандр Зайцаў. Фота Святланы ЦІШКО.

## Стагоддзе дваццаць першае

На вуліцах Войстама ў той дзень было пуста. Першага войстамца мы сустрэлі на могілках. Гэта быў мужчына няпэўнага ўзросту. Не чакаючы запрашэння да размовы, ён расказаў, што ў дзяцінстве лазіў у склеп, дзе пахаваны святар, і што цяпер уваход у склеп забетаніраваны.

Цэнтральнай плошчы ў Войстаме няма. Нам як гасцям падалося, што цэнтр вёскі там, дзе ад цэнтральнай вуліцы адыходзіць дарога на могілкі. Там стаіць невялікая каменная каплічка, магазіны, непадалёк – касцёл Прасвятой Тройцы.

Касцёл здзівіў сваім знешнім выглядам: некалькі метраў у вышыню ён складзены з каменю, наступныя некалькі метраў – з вузкай жаўтаватай цэглы (напэўна, пачатку дваццатага стагоддзя), яшчэ вышэй – цалкам сучасная чырвоная. Ксёндз Леон Ладыш расказаў, што касцёл будавалі вельмі доўга. Ледзь завяршылі будоўлю – пачалася другая сусветная вайна. Унутранае аздабленне рабілі, па яго словах, у часы Гарбачова.

Першага ксяндза Марцэлія Слупінскага, расказаў Леон Ладыш, у 50-ыя гады забілі. На святы святой Ганны ў Жодзішках Слупінскі сказаў у пропаведзі прыхаджанам, што прыйшлі цёмныя хмары. Пасля гэтага яго выклікалі супрацоўнікі спецслужбаў і збілі так, што дні праз тры ён памёр.

У касцёле ёсць арган. Ксёндз Леон Ладыш ім незадаволены: ад перападаў тэмпературы гэты музычны інструмент пішчыць. Стары арганіст умеў рамантаваць, але яго больш няма. Цяпер часам іграе Яўген Андрыца, які працуе пажарным у Смаргоні.

## Справы зямныя

Таксама ў цэнтры Войстама – прадуктовы магазін, прыёмны пункт і прамтаварны магазін. Хлеб, па словах прадаўцоў, у Войстам прывозяць з Астраўца: смаргонскі хлебакамбінат у аварыйным стане. Галіна Трызна, якая працуе ў магазіне прамтавараў, расказала, што пакупнікоў нямнога, асабліва ў сярэдзіне дня. «Раніцай больш людзей, – сказала яна. – Бывае і па 8 чалавек». Апошнюю буйную пакупку – халадзільнік – войстамцы зрабілі ў канцы сакавіка. Такі тавар, а таксама туфлі, войстамцы могуць заказаць. Цяпер, па словах Галіны, добра ідзе ўгнаенне. «Лепш, як у мінулым годзе», – сказала яна. Напрыканцы нашай размовы зайшла пара пакупнікоў, муж і жонка. Выбіраючы тавар, яна звярнула ўвагу на табурэткі. «Божанькі мае! – выгукнула жанчына. – Табурэтка – 26 тысяч!» Але некалькі пакупак яны зрабілі.

Перад ад’ездам дадому хацелася яшчэ пабачыць гарадзішча. Аднак знайсці яго аказалася не так проста: ахоўны знак – у музеі. Усё ж мы адшукалі высокую гару каля вясковага сметніку. Вогнішча сведчыла пра тое, што тут любіць збірацца моладзь. Аднак, да гонару войстамцаў, гара не засмечаная.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# «А Вілейка – рэзідэнцыя...»

**Канцэрт дзяржаўнага ансамбля “Песняры” прайшоў у маладзечанскім Палацы культуры 23 красавіка. Яго дырэктар, Валерый Скаражонак, нарадзіўся і вырас у Вілейцы. Ён пагадзіўся даць інтэрв’ю “Рэгіянальнай газеце”.**




Дырэктар дзяржаўнага ансамбля «Песняры», ураджэнец Вілейкі, Валерый Скаражонак (другі злева) 23 красавіка перад канцэртам у Маладзечне даў інтэрв’ю «Рэгіянальнай газеце». Сустрэўшы каля палаца маладую сям’ю, што толькі выйшла з ЗАГСа, ён ахвотна пагадзіўся павіншаваць жаніха і нявесту і сфатаграфавацца з імі.

Фота Святланы ЦІШКО.

– У Вілейцы пасля пераезду ў Мінск бываю нячаста. Горад прыгожы, мне вельмі падабаецца, але з прычыны занятасці не магу бываць там часта. Бо цяпер я сумяшчаю 2 пасады – дырэктара ансамбля і артыста. Апошні раз быў на Радаўніцу: у Вілейцы пахаваныя мае бацькі.

**– Вілейка саступае Мінску?**

– Мінск – гэта мегаполіс, там трэба працаваць. А Вілейка – рэзідэнцыя, там душа адпачывае – гэта радзіма.

**– У інтэрв’ю нашай газеце ў 1997 годзе Вы казалі, што любіце слухаць «Led Zeppelin», «Pink Floyd», «Queen», «Beatles», Дэміса Русаса. Ці змяніліся Вашыя захапленні за гэты час?**

– Я вырас на гэтай музыцы, але цяпер не паспяваю слухаць пабочную музыку. І на хобі не хапае часу. Я нават парушыў пастаянны рэжым: раней кожны тыдзень парыўся ў лазні, цяпер і на гэта не маю часу.

**– Ці патрэбны дырэктару гадзіннік?**

– Абавязкова. У мяне два, на мабільніку і наручны. (Валерый паказаў наручны гадзіннік «Арыён».)

**– Што зараз у Вас у халадзільніку?**

– Халадзільнік цяпер поўны. Стараюся прытрымлівацца посту, таму за пост назапасілася многа мяснога.

**– Вы глыбока веруючы чалавек?**

– Я веру ў Бога, наведваю храм, але глыбока веруючым сябе не лічу. Глыбока веруючы чалавек – той, хто пакінуў у баку мірское і служыць толькі Богу. Я служу мастацтву. Але талент, на маю думку, дае Бог. Наша работа пачалася з блаславення Філарэта на першым канцэрце ў Жыровічах.

Плануем у стылі «Песняроў» выпусціць альбом духоўнага песнапення, цяпер збіраем для гэтага матэрыял.

**– Ці заўсёды Вы кажаце праўду?**

– Маніць не маню. Але бываюць моманты, калі даводзіцца змоўчаць.

**– Ці ёсць у Вас веласіпед?**

– Дома ў мяне 2 веласіпеды, дарослы і дзіцячы. Раней, калі быў проста артыстам, больш часу аддаваў веласіпеду.

**– Ці варта ў наш час займацца музыкай?**

– Музычныя здольнасці трэба развіваць у кожнага дзіцяці. Мы адкрылі пры нашым ансамблі нацыянальны творчы цэнтр імя Уладзіміра Мулявіна, каб выхоўваць у дзяцей добры музычны густ, густ да сваёй, беларускай, музыкі. На жаль, рынкі запоўненыя расійскай і замежнай эстрадай. А ў нас столькі ўсяго цудоўнага створана: беларускія оперы, балет, сімфоніі – усё, што створана беларускімі аўтарамі. Але на рынку аддаюць перавагу замежнай музыцы. Гэта несправядліва. Трэба прымнажаць сваю спадчыну.

Нацыянальным творчым цэнтрам імя Уладзіміра Мулявіна кіруе старэйшая дачка Мулявіна, Марына. Гэта вельмі сімвалічна. Атрымліваецца як працяг сямейнай традыцыі. Можа быць хто-небудзь з тых дзяцей, што будуць займацца ў творчым цэнтры імя Мулявіна, калісьці трапіць у склад «Песняроў». Мулявін стварыў гэты калектыў не для таго, каб ён знік на першым складзе. У кожнага пакалення павінны быць свае «Песняры».

У нас шмат таленавітай моладзі, але няма выхаду на расійскі шоу-бізнэс. Моладзь варыцца ва ўласным саку – колькі той Беларусі. Каб на артыста быў попыт, важна выйсці на расійскае тэлебачанне. Тады з ім пачнуць працаваць прадзюсеры, убачаць шырокія масы.

У Беларусі трэба арганізоўваць прадзюсерскія цэнтры, школы артыстаў кшталту «Фабрыкі зорак». Моладзь трэба рыхтаваць да шоу-бізнэсу, каб яна ўмела працаваць. Пакуль што ў нас працуюць на аснове інтуіцыі.

Артыста трэба раскручваць, укладваць у яго. А беларуская эстрада жабруе. Нашы артысты што зарабляюць, тое і трацяць на касцюмы, апаратуру. Як пажартаваў адзін мой знаёмы: наш заробак нагадвае рэшту.

**– Ці лічыце Вы сябе мэтрам беларускай эстрады?**

– Не. Мэтрам быў Мулявін. Да мэтраў можна аднесці таксама Вуячыча і Фінберга. У адносінах да мяне гэтае слова прымяніць нельга.

**– Ваш ансамбль будзе мяняць рэпертуар?**

– Мы будзем абнаўляць рэпертуар за кошт новых песень, якія не парушаюць стыль, традыцыі, закладзеныя Мулявіным. Будзем у гэтым стылі пісаць новыя песні, не выходзячы з фармату «Песняроў». У нас ёсць, напрыклад, таленавіты кампазітар, аранжыроўшчык Вячаслаў Шарапаў – генератар нашага калектыву. Некаторыя яго песні («Княжна», «Ля замкавай гары») паспеў праспяваць Мулявін.

**– Вы свабодны чалавек?**

– Я жанаты (Валерый смяецца: гэта жартоўны адказ).

**Святлана ЦІШКО.**

■ КАНЦЭРТЫ

# Бывайце здаровы

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль поўную залу Палаца культуры сабраў 23 красавіка канцэрт пад назвай «Сердцем хранімые» дзяржаўнага ансамбля «Песняры».**

Гэта пачатак тура, прысвечанага 60-годдзю вызвалення Беларусі, сказаў дырэктар ансамбля **Валерый Скаражонак** у інтэрв’ю «РГ». Артысты планавалі наступнае выступленне наладзіць 24 красавіка ў Вілейцы. Але гэты канцэрт адмянілі. «Я і **Сяргей Шкурдзэ** – віляйчане, – сказаў Валерый Скаражонак. – Крыўдна, што родны горад не знайшоў магчымасці нас прыняць».

У вілейскім Доме культуры патлумачылі, што канцэрт адменены таму, што віляйчане не раскупілі білеты. «Мы арганізавалі рэкламу, – сказала дырэктар Дома культуры **Жанна Барткевіч**, – але папярэдне віляйчане заказалі толькі 40 білетаў. Красавік – не сезон для канцэрта. Канцэртныя для Вілейкі студзень, люты, сакавік. Усё ж для нашага горада 6 тысяч за білет – гэта дарагавата, асабліва для тых, хто жадае прыйсці сям’ёй. Як зямляк Валерый Скаражонак мог бы і бясплатна наладзіць канцэрт, як гэта робіць **Міхаіл Казінец**». «Песняры», сказала яна, запрасілі ганарар 2,5 мільёна рублёў.

У Маладзечне прадалі 379 білетаў па цане 5, 7 і 9 тысяч рублёў. Да канцэрта, патлумачылі ў касе палаца, некаторыя людзі цікавіліся, «ці тыя гэта «Песняры», прасілі назваць прозвішчы артыстаў.

Само выступленне доўжылася крыху больш за 2 гадзіны. Артысты спявалі шлягеры: «Белавежская пушча», «Вологда», «Дорогой длинною». Гледачы ў праходах не танцавалі, але шмат хто з іх, асабліва жанчыны, ціха падпявалі.

Напрыканцы канцэртнай праграмы Валерый Скаражонак падзякаваў «службам палацу за святло, гук, за чароўны прыём». Асаблівую падзяку за дапамогу ў арганізацыі канцэрта ён выказаў «свайму сябру, дырэктару маладзечанскага музвучылішча **Рыгору Сароку** і самай прыгожай дырэктарцы палаца, якую толькі даводзілася бачыць «Песнярам», **Святлане Грыцкевіч**.

Пасля фінальнай песні «Бывайце здаровы» адны гледачы накіраваліся да выхаду, некаторыя засталіся, каб узяць аўтограф. Навучэнка маладзечанскага музвучылішча, маладая кампазітарка **Вольга Воінская**, якая выходзіла адной з апошніх, засталася задаволеная тым, што прыйшла на канцэрт. «Песняры» – адзін з маіх любімых ансамбляў, – сказала яна ў інтэрв’ю «РГ». – Кожны выканаўца па-свойму спадабаўся. Мне хацелася б пісаць музыку да песняў «Песняроў».

**Святлана ЦІШКО.**

■ КНІГІ

## «Нота судьбы»

**МІНСК. У аўторак у Мінску адбылася прэзентацыя кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура» «Нота судьбы», прысвечанай творчасці народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна.**

Як паведаміла на прэзентацыі аўтар праекта, галоўны рэдактар газеты «Культура» **Людміла Крушынская**, «у стварэнні кнігі брала ўдзел шмат людзей» — «больш за 70 аўтараў не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы». Паводле яе слоў, праца над кнігай «Нота судьбы» «ішла дастаткова цяжка».

Людміла Крушынская паведаміла, што падчас працы над ёй стваральнікі «звязваліся з «зоркамі» з Латвіі, Польшчы, Украіны». «Прыемна, што калі мы звярталіся да людзей, не было ніводнай адмовы, нягледзячы на тое, што, да прыкладу, Сафія Ратару гастралявала ў далёкім замежжы, але знайшла магчымасць напісаць і даслаць свае словы ў адрас Уладзіміра Мулявіна, — сказала яна. — А дзякуючы пасольству Латвіі ў Беларусі ўдалося знайсці тэлефон Раймонда Паулса, мы патэлефанавалі яму, і ўжо праз пасольства Беларусі ў Латвіі пераслалі касету са словамі кампазітара». Крушынская зазначыла, што ў кнізе ёсць матэрыял музыканта з першага саставу ансамбля «Песняры» Валянціна Бадзьярава, які цяпер жыве ў Германіі, — з ім ішла актыўная перапіска па электроннай пошце.

Гаворачы аб структуры кнігі, Людміла Крушынская зазначыла, што яна складаецца з чатырох частак. Адзін з блокаў «Человек» утрымлівае выказванні аб чалавечых якасцях і жыццёвым шляху «песняра». Глава «Менестрель. Музыкант. Песняр» уключае ўспаміны людзей (музыкантаў, мастакоў, кінематаграфістаў і іншых), якія працавалі з Мулявіным. Блок «Беларусь. Мулявин. Мир» «фарміраваўся канцэптуальна, каб раскрыць выхад «Песняроў» на прасторы зямнога шара», сказала аўтар праекта. «Тут у асноўным размова ідзе аб гастрольных паездках, — зазначыла яна. — У гэтай главе выступілі Аляксандра Пахмутава і Мікалай Дабранраваў, першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка, замежныя «зоркі» Мікалай Растаргуеў, Аляксандр Разенбаум і многія іншыя». Апошні блок «Легенда. Великая правда» прадстаўляюць сабою даследаванні, дзе сабраны артыкулы вядомых музыказнаўцаў, а таксама расказ аб тым, як маладыя рок-музыканты ўспрымаюць спадчыну Мулявіна, наколькі яны арыентуюцца на яго, сказала Крушынская.

Рэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў зазначыў на прэзентацыі, што «праца, пошук матэрыялаў працягваецца, і літаральна два дні таму з вялікімі цяжкасцямі ўдалося атрымаць «Песню аб долі». Паводле яго слоў, сёлета таксама будзе падрыхтаваны мультымедыйны варыянт спадчыны — 2 кампакт-дыскі, у якія ўвойдзе не толькі ўвесь музычны архіў, але і «найбагацейшы відэарад, у прыватнасці, кінафрагменты, інтэрв’ю, фота».

**Паводле БелаПАН.**

■ АРХІВЫ СВЕДЧАЦЬ

# Маладзечна і Валожын – равеснікі

## 26 красавіка Маладзечна і Валожын сустрэлі сваё 75-годдзе ў статусе гарадоў

### Маладзечна

**Не кожны маладзечанец зможа адказаць на пытанне: "Чым адметная для нашага горада дата 26 красавіка 1929 года", а між іншым, з гэтай даты і варта адлічваць гісторыю горада Маладзечна, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў. Як з'явілася на карце Рэчы Паспалітай Польшчы новая адміністратыўная адзінка – горад Маладзечна – расказваюць архіўныя дакументы.**

27 ліпеня 1928 года ваявода Рачкевіч з Віленскага ваяводскага ўпраўлення пісаў міністру ўнутраных спраў у Варшаве: "Прымаючы да ўвагі, што размешчаныя ў гміне "Маладзечна" населеныя пункты "Маладзечна", "Старая Бухаўшчына", "Новая Бухаўшчына", "Завань", два фальваркі пад назвай "Гелянова" з'яўляюцца тэрытарыяльна цесна звязанымі між сабой, а таксама ўлічваючы, што з 71 паселішча ў гміне менавіта яны даюць 60 працэнтаў валавога даходу гэтай гміны, пры гэтым не атрымліваючы ніякіх выгодаў, якія б адпавядалі цяжкасці выплачваемых іх жыхарамі падаткаў і давалі б перспектыву далейшаму развіццю.

Пры гэтым варта адзначыць, што абарона інтарэсаў згаданых населеных пунктаў моцна абцяжарана, бо ў гміннай радзе прысутнічае ўсяго 2 іх прадстаўнікі (па выбарчым законе).

Зыходзячы з вышэйзгаданага, выступаю за прапанову аб утварэнні з гэтых паселішчаў гарадской гміны "Маладзечна".

За выдзяленне гэтых паселішчаў са складу сельскай гміны і стварэнне самастойнай гарадской гміны гаворыць наступныя аргументы:

1. З агульнай колькасці жыхароў сельскай гміны "Маладзечна" – 11540, у памянёных населеных пунктах (з якіх плануецца стварэнне гарадской гміны) пражывае 5951 чалавек, што цалкам дастаткова для засялення планувемага горада Маладзечна.

2. Згаданыя населеныя пункты з'яўляюцца месцам



Маладзечна, вул.Замкавая. Першая палова XX стагоддзя.

Фота з фонду Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

размяшчэння кіраўніцтва старасты, а таксама ўсіх іншых устаноў Маладзечанскага павета, маецца гуманітарная гімназія, 2 агульнаадукацыйныя, дзве 7-класныя школы, у бліжэйшы час плануецца стварэнне дзяржаўнай рамеснапрамысловай школы; тут размяшчаецца значная колькасць ваенных у асабістых казармах; таксама на тэрыторыі гэтых пунктаў размешчана станцыя Маладзечна, у якую ўваходзяць вузлавая станцыя, дэпо, майстэрні, таксама аддзяленне чыгуначнай адміністрацыі. Усё гэта надае такім населеным пунктам рысы горада.

3. Згодна са статыстычнымі дадзенымі, у ліпені гэтага года характар занятасці насельніцтва наступны: 30% — адміністрацыя і чыгуначныя рабочыя; 13% — рамеснікі; 11% — купцы і гандляры, г.зн. характар занятасці мае хутчэй гарадское, а не сельскае аблічча.

4. У сувязі з магчымым і чаканым усталяваннем у будучым гандлёвых адносінаў з Расіяй, Маладзечна, несумненна, стане адным з галоўных транзітных пунктаў, і ўпэўнение і хуткае развіццё гэтага населенага пункта без надання яму статуса горада, безумоўна, моцна затармозіцца (адсутнасць мясцовай улады, цяжкасці ў адшуканні крэдытаў на будаўніцтва і інш.).

Адначасова варта адзначыць, што склад насельніцтва, якое пражывае ў гэтых населеных пунктах, гарантуе з'яўленне жыццяздольнай мясцовай улады як з эканамічных, так і з нацыянальных пунктаў погляду.

Што тычыцца эканамічнай незалежнасці планувемага горада, то спецыяльныя падаткі, неабходныя для стварэння гарадскога кіравання, спачатку скароцяць бюджэт, але даходы, атрымліваць якія дае права статус горада, пакрыюць расходы на ўтрыманне гарадскога кіраўніцтва, і ў далейшым магістрату ўдасца паляпшаць стан гміны палепшыцца".

### Межы горада

**Дакументы ад 10.11.1928 і 20.11.1928 вызначылі межы праектуемага горада і колькасць займаемых ім зямель (на жаль, няма плана горада).**

Па лініі АБ – па землях в.Цівідаўка, па лініі ВС – па р.Уша, па лініі СД – па землях в.Вялікае Сяло, па лініі ДЕ – па землях вёсак Шнуры і Мыслевічы, па лініі ЕР – па землях в.Мянюткі, па лініі РА – па землях в.Каледзіно.

Усяго пад горад Маладзечна адводзілася каля 2350 гектараў зямлі, з якіх:

землі дзяржаўнага маёнтка Маладзечна – прыблізна каля 600 га, мястэчка Маладзечна – прыблізна каля 1073 га, засценка Цівідаўка – каля 23 га, фальварка Бухаўшчына – каля 40 га, калоніі Завань – каля 52 га, фальварка Гелянова (уласнасць Мардусевіча) – каля 95 га, былога маёнтка Гелянова (набыта ваеннымі ўладамі) – каля 129 га, в.Бухаўшчына – каля 338 га

26 красавіка 1929 года выйшла распараджэнне Савета Міністраў Польшчы за №308 аб залічэнні мястэчка Маладзечна ў лік гарадоў.

Распараджэнне Савета Міністраў №308 ад 26.04.1929 года аб залічэнні мястэчка Маладзечна Маладзечанскага павета Віленскага ваяводства ў лік гарадоў і далучэнні да яго некаторых паселішчаў.

На падставе артыкулаў 1 і 2 закона ад 20 лютага 1920 года аб залічэнні сельскіх паселішчаў у лік гарадоў і аб змяненні межаў горада на тэрыторыі, якая раней належала Расіі, пастанаўляем:

1. Мястэчка Маладзечна, якое ўваходзіць у склад сельскай гміны Маладзечна Маладзечанскага павета Віленскага ваяводства выключыць са склада сельскіх паселішчаў і залічыць да ліку гарадоў.

2. Мясцовасці: вёска Бухаўшчына, вёска і фальварак Новая Бухаўшчына, фальварак Маладзечна, фальварак і засценак Гелянова, калонія Завань, а таксама засценак Цівідаўка, якія ўваходзяць у склад сельскай гміны Маладзечна, выключаючы з яе склада і ўключаючы ў склад створанай гарадской гміны Маладзечна.

3. На створаную Маладзечанскую гарадскую гміну распаўсюджваецца дзеянне распараджэння Генеральнага Камісара Усходніх Зямель ад 25.06.1919 года аб часовым гарадскім кіраўніцтве.

4. Выкананне дадзенага распараджэння ўскладаецца на Міністэрства Унутраных Спраў.

5. Дадзенае распараджэнне ўступае ў сілу з дня апублікавання.

І подпісы: Старшыня Савета Міністраў — Світальскі, Міністр Унутраных Спраў — Складкоўскі.

### Валожын

**26 красавіка споўнілася 75 гадоў як Валожыну быў нададзены статус горада. Аб гэтым у занальным дзяржархіве ёсць распараджэнне Савета Міністраў Польшчы ад 26 красавіка 1929 года за №309 "Аб залічэнні паселішча Валожын Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства ў лік гарадоў і аб расшырэнні межаў створанага горада".**

На падставе артыкулаў 1 і 2 закона ад 20 лютага 1920 года аб залічэнні сельскіх паселішчаў у лік гарадоў, а таксама аб змяненні межаў гарадоў на тэрыторыі, якая раней належала Расіі, пастанаўляем:

1. Паселішча Валожын, якое ўваходзіць у склад Валожынскай сельскай гміны Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства, выключыць са складу сельскіх паселішчаў і залічыць у лік гарадоў.

2. Са складу сельскай гміны Валожын Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства выключыць таксама фальварак Валожын плошчай 45 гектараў, паселішчы Бандары, Келевічы, Еўлашы, Панізе і далучыць іх да створанай гарадской гміны Валожын.

3. На створаную Валожынскую гарадскую гміну распаўсюджваецца дзеянне распараджэння Генеральнага Камісара Усходніх Зямель ад 25.06.1919 года аб часовым гарадскім кіраўніцтве.

4. Выкананне дадзенага распараджэння ўскладаецца на Міністэрства Унутраных Спраў.

5. Дадзенае распараджэнне ўступае ў сілу з дня апублікавання.

Подпісы: Старшыня Савета Міністраў – Світальскі, Міністр Унутраных спраў – Складкоўскі.

**Наталля ІВАНОВА,**
**загадчыца аддзела выкарыстання і публікацыі дакументаў занальнага дзяржархіва Маладзечна.**

# Служба надвор'я – юбілярка

**У мінулы чацвер нацыянальная гідраметэаралагічная служба адзначала свой 80-гадовы юбілей. А з ёй і калектыў гідраметэастанцыі Вілейкі, якая была створана дзяржаўнай гідраграфічнай службай Польшчы.**

З 1924 года тут ужо праводзіліся гідралагічныя назіранні на рэках, а праз два гады спецыялісты сталі сачыць і за надвор'ем. Архіўныя звесткі сведчаць, што ў перыяд акупацыі служба, хоць і з перапынкамі, працавала. Немцы таксама мелі неабходнасць у забеспячэнні арміі гідраметэаінфармацыяй.

Пасля выгнання фашыстаў, у ліпені 1944-га, гідраметэастанцыя Вілейкі аднавіла сваю работу. На працягу ўсяго гэтага часу яе гісторыя цесна пераплецена з гісторыяй нацыянальнай гідраметэаралагічнай службы, якая да 1931 года ўяўляла сабой 262 пасты і станцыі. А праз дзесяць гадоў у рэспубліцы ўжо дзейнічала добра аснашчаная гідраметэаралагічная сетка назіранняў, у склад якой уваходзілі 464 станцыі і пасты. Праводзілася шырокае гідраметэазабеспячэнне народнай гаспадаркі, паспяхова працавала геафізічная абсерваторыя па вывучэнні клімату і гідралогіі Беларусі.

У гады акупацыі служба не працавала. Аднак у партызанскіх атрадах вяліся эпізадычныя назіранні за надвор'ем для забеспячэння баявых аперацый Чырвонай Арміі. Менавіта на тэрыторыі Беларусі ў гады вайны працавалі першыя ў свеце аўтаматычныя метэастанцыі.

За ваенныя ліхалецце нацыянальная метэаслужба страціла больш за 300 высокакваліфікаваных спецыялістаў, было разбурана 85% станцый і 90% пастоў. Гідраметэафонд ворат знішчыў альбо вывез у Германію. Аднак адразу пасля вызвалення яе ўдалося аднавіць.

У 70-80 гады вышэй названая служба была адной з лепшых у Саюзе. Тут выпрабоўваліі новыя прыборы і абсталяванне. Вялікая работа была праведзена спецыялістамі і па вызначэнні забруджвання тэрыторыі Беларусі ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Шмат работы зроблена для паляпшэння экалагічнай абстаноўкі Беларусі.

Распад СССР не лепшым чынам адбіўся на службе. Аднак нягледзячы на ўсе складанасці, яна сумела стварыць сучасны Цэнтр тэлекамунікацый, забяспечыла сваё падраздзяленне персанальнымі электронна-вылічальнымі машынамі. Праводзіць работы па вывучэнні клімату і забруджванні прыроднага асяроддзя. Што вельмі важна і неабходна.

**Вячаслаў ЛАПКО,**
**начальнік Вілейскай гідраметэастанцыі.**

■ КАЛЯНДАР

**1 мая. 45 гадоў назад, 1 мая 1959 года, у в.Панкраты Вілейскага раёна нарадзіўся Станіслаў Зялёнка** – мастак, паэт, беларускі дзеяч у Літве.

**1 мая. 95 гадоў з дня нараджэння Ліпы Кроля** (1909-1977), беларускага мастака тэатра, плакатыста.

**1 мая. 90 гадоў з дня нараджэння (1914) Алены Ленсу**, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.

**1 мая. 70 гадоў з дня нараджэння Якава Касалапава** (1934-1982), беларускага кампазітара.

**1 мая. 70 гадоў з дня нараджэння Міколы Корзуна** (1934-1995), беларускага пісьменніка.

**1 мая. 65 гадоў з дня нараджэння (1939) Наталлі Гайды**, беларускай спявачкі, народнай артысткі Беларусі.

**2 мая. 70 гадоў з дня нараджэння Аляксея Гардзіцкага** (1934-1999), беларускага крытыка.

**2 мая. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Кастуся Жука**, беларускага паэта.

**4 мая. 185 гадоў з дня нараджэння Фларыяна Міладоўскага** (1819-1889), кампазітара, піяніста, педагога.

**4 мая. 85 гадоў з дня нараджэння Пятра Шасцерыкова** (1919-1994), беларускага празаіка, перакладчыка, публіцыста. Пісаў на рускай і беларускай мовах.

**4 мая. 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Маланкіна** (1929-1978), беларускага рэжысёра, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**5 мая. 185 гадоў з дня нараджэння Станіслава Манюшкі** (1819-1872), польскага і беларускага кампазітара, дырыжора, педагога.

**5 мая. 80 гадоў з дня нараджэння (1924) Леаніда Ячнева**, беларускага дзеяча самадзейнага мастацтва, настаўніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**5 мая. 70 гадоў з дня нараджэння (1934) Мікалая Казакевіча**, беларускага жывапісца.

